№ 70. 13 кастрычніка 1916 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# ГОМАН

БЕЛАРУСКАЯ ВІЛЕНСКАЯ ЧАСОПІСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ У ТЫДЗЕНЬ: У АЎТОРКІ І ПЯТНІЦЫ.

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на $^1/_2$ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

## Ультіматум Грэції.

### Пагоня за румынамі на усім фронці.

АФІНЫ. (Рэўтэр) 11.X. Францускі глаўнакамандуючый флотам паслаў грэцкаму ураду ультіматум, **ДАМАГАЮЧЫСЯ ВЫДАЧЫ УСЯГО ГРЭЦКАГО ФЛОТУ**, апрыч панцырнаго крэйсэра «Georgios Awerow» і броненосцоў «Lemnos» і «Kilkisz». Гэтак сама ён дамагаецца **ПЕРЭДАЧЫ ЧЫГУНКІ** Пірэй — Ларысса. Гэтые жаданьня тлумачацца патрэбай абаспечыць флот саюзьнікоў.

---

### 10 кастрычніка.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Наабапол Соммы трываюць бітвы. На ўсім фронці між Анкр і Соммай саюзьнікі атакуюць вялікімі сіламі. Пешые штурмы англічан на паўночным усходзі ад Тіэпваль і на лініі Лессар—Гэдэкур адбіты большай часьцю ўжо зашчытным агнём. Пад вечар на фронці Морваль—Бушавэнь пачаліся сільные штурмы, каторые трывалі да самай раніцы. Проці пазыцый пры Сайі ворагі атакавалі 6 разоў. Усе атакі былі дарэмные. Нашы пазыціі ўсе ў нашых руках. На палудні ад Соммы бітва ішла між Жэнэрмон і Шольн. Чысьленые францускіе штурмы адбіты. Цукроварня ў Жэнэрмон, за каторую ішлі вострые бітвы, ў нашых руках. У вёсцы Абленкур развіліся заядлые бітвы за паадзінокіе хаты і трываюць дагэтуль.

**Усходні тэатр:**

Без прыпадкоў.

*Фронт у Семіградзіі*: У даліне Марос'а ворагі не маглі устаяць проці абходнай атакі. Далей на поўначы яны так сама пачынаюць адступаць. За імі йдзе пагоня на ўсім усходнім фронці. Другая румынская армія адкінута да пагранічных ваколіц. У бітвах у гарах за апошніе два дні ў нашы рукі папалі: 18 афіцэроў, 639 салдатоў, адна 10-цэнтымэтровая гармата, 5 кулемётоў, шмат амуніціі і стрэльб. Атакі ворагоў наабапол праходу Вулкан адбіты.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт Макензэна*: Без перамен.

*Македонскі фронт*: Чысьленые атакі ворагоў пры Чорнай адбіты. На заходзі і ўсходзі ад Вардара ворагі дарма прабавалі наступаць.

**На Румынію!**

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Імператар у глаўнай кватэры рабіў праз ўвесь дзень прагляд войск, каторые едуць на румынскі фронт.

(*Тэлеграмы з апошняго момэнту—на 4 стр.*).

---

### З апошніх дзён.

—s—

**Нямецкіе апавешчэньня.**

**10.X. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Учора ворагі ізноў вялі сільные штурмы на ўсенькім фронці між Анкр і Соммай, асабліва ў вечэры і ў начы. Яны ўсе былі дарэмные. На ўсходзі ад Вэрмандовільве спробы французоў штурмаваць былі стрыманы.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Наабапол Маасу—вострый огонь артылерыі і мінные бітвы.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Пры Острове, на Стоходзі (на паўночным заходзі ад Луцка) мы выкінулі расейцоў з высунутай ўпярод пазыціі і адбілі контратакі. Нямецкіе атрады з зусім незначнымі стратамі штурмавалі вёску Гэрбутов, на заходзі ад Нараеўкі, ўзялі 4 афіцэроў і 200 салдатоў у палон і некалькі кулемётоў.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля*: У Карпатах расейскіе контратакі проці здабытых намі пры Бабе Людовай пазыцый адбіты.

*Семіградзкі фронт:* На усходнім фронці мы ўсюды далей наступаем. Выхад з гор Гаргіта і Сароль у верхнюю і ніжнюю даліну Чыка намі здабыты. Наабапол Кронштадта нашае пабеднае войско вострa гоніць разбітых румыноў. У трохдзённай бітве пры Кронштадці дагэтуль узяты: 1175 палонных, 25 гармат, у тым ліку 13 цяжкіх, многа скрынь з амуніцией і аружжа. Апрыч таго здабыты 2 паравозы і больш за 800 вагоноў, большай часьцю нагружэных спажыўнымі прадуктамі. Паводлуг аднародных данясеньнёў з усіх часьцей, ворагі маюць надта цяжкіе крывавые страты. На заходзі ад праходу Вулкан здабыта гара Нэгрулюі.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: без перамен.

*Македонскі фронт:* Ворагі далей атакуюць боўгароў на закруці рэкі Чорнай. Пры Скопівір яны дайшлі невялікай удачы; у іншых мейсцох яны скрозь адбіты.

**11.X. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На паадзінокіх адрэзках фронту Альбрэхта Вюртэмбэрскаго і Рупрэхта Баварскаго англічане ізноў выявілі энэргічную патрульную работу. На фронці на поўначы ад Соммы пасьля сільнаго, даходзіўшаго далёка на поўнач ад рэкі Анкр агня ворагоў былі ў вечэры і ў начы мейсцовые штурмы, каторые на лініі Морваль — Бушавэнь паўтараліся некалькі разоў з асаблівай сілай. Тут на палудзенным усходзі ад Сайі ворагі умацаваліся на вузкім адрэзку нашай пярэдняй лініі, а на ўсіх іншых мейсцох адбіты агнём або штыкамі. На паўночным усходзі ад Тіэпваль бітва ешчэ ня скончылася. На палудні ад Соммы французам, пасьля трываўшаго некалькі дзён агня, ўдалося ўварвацца на выгнутую ў старану Вэрмандовільве дугу нашых пазыцій і адціснуць нашае войско на загадзя прыгатаваную лінію, каторая выраўняла фронт. У пакінутых ваколіцах ёсць хутары Жэнормон і Бован.

Нашы лятуны збілі 4 аэропланы за лініей ворагоў і 4—за нашай лініей.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пры Прыне, на палудзенным усходзі ад Рэймсу, нямецкая дружына разведчыкоў прабілася да трэйцяго францускаго акопу і ўзяла палонных. Узмацаваны ўжо за апошніе дні агонь у ваколіцах Маасу ад часу да часу узмацоўваўся ешчэ болей, асабліва на ўсходзі ад рэкі. У вечэры на адрэзку Тіомон—Флеры ішлі короткіе бітвы ручнымі гранатамі. На ўсходзі ад Флеры адбіто францускае наступленьне.

**Усходні тэатр:**

На абодвых фронтах — нічога выдатнаго.

*Семіградзкі фронт*: У даліне Марос'а ворагі ешчэ цьвёрда дзержацца. У даліне Гэргэн і на паўночным усходзі ад Парайд яны ізноў адступілі. На ўсходзі ад Чык-Сэрэда і далей на палудні ў даліне Альта яны адкінуты назад. Пагоня за разбітай пры Кронштадці другой румынскай арміей трывае далей.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: На Дунаю і ў Добруджы—ніякіх прыпадкоў. Нашы лятучые эскадры удачна абкідалі бомбамі ваенные транспорты каля Констанцы.

*Македонскі фронт*: Апрыч вострых мейсцовых артылерыйскіх бітв былі дарэмные наскокі ворагоў пры Чорнай, на Нідзэ Планіне і ў ваколіцах Люмніцы.

**Нямеччына і Амэрыка.**

НЬЮ-ЙОРК. «Daily News» даносіць, што немцы, пасылаючы свае падводные лодкі да амэрыканскіх берагоў, зрабілі прэзыдэнту найвялікшы за час яго прэзыдэнцтва клопат. Калі ён ня зробіць нічога іншаго, апрыч пасылкі ноты, дык утраціць паддзержку тысяч амэрыканцоў, каторые, праўда, ня хочуць вайны, але ня хочуць і міра за ўселякую цэну. Проці прэзыдэнта—большая часць амэрыканцоў.

ПАРЫЖ. Газэты с прычын паяўленьня нямецкіх падводных лодак каля амэрыканскіх берагоў даюць прэзыдэнту рады, каторые маюць характэр цьвёрдаго жаданьня. «Temps» піша: «Амэрыка павінна выступіць проці блокірованьня яе берагоў немцамі і выясьніць за ўселякую цэну сэкрэт, як здаволіваюцца нямецкіе падводные лодкі апалам і прадуктамі каля амэрыканскаго узьбярэжжа. Гэта—павіннасць нэутральнаго гасударства».

---

Гл. тэлеграмы на 4 страніцы.

